www.nv-online.info

№ 54 (4203)

11 ліпеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна
для “Народнай Волі”

## Дзе няма свядомых, там будзе імперыя

Прызнаюся, што практычна не чытаю такі спецыфічны прарасійскі рэсурс, як Imhoclub.by. Але паленіка палітолага Валерыя Карбалевіча з Юрыем Шаўцовым прымусіла ўважліва вывучыць адзін з матэрыялаў апошняга, які нядаўна перадрукаваны “Імхаклабам”.

Пафас гэтага тэксту, напісанага з нагоды афіцыйнага Дня Незалежнасці, палягае ў клеймаванні “свядомых”, іначай кажучы – нацыянальна арыентаванай эліты нашага грамадства. Аўтар, прэзентаваны як дырэктар Цэнтра па праблемах еўрапейскай інтэграцыі, задаволена канстатуе (арфаграфія захавана): *“Белорусы отказались садить себе на шею лживое и подлое в самой своей сердцевине сьвядомае кола”*. Маўляў, калі нацыяналісты, барані божа, дарвуцца да ўлады, то непазбежна створаць крывавы рэжым, пачнуць забіваць ці выганяць нязгодных.

Аўтар без аніякай аргументацыі сыходзіць з дзіўнага пастулата, што Усходняя Еўропа нібыта схільна менавіта да такога пячорнага, пачварнага нацыяналізму. Між тым у Літве, напрыклад, на мяжы 1990-х дамагліся свайго акурат нацыянальна свядомыя сілы, дзейнасць якіх браў за ўзор БНФ, – і неяк жа абышлося без лінчавання рускамоўных. Дарэчы, як сведчаць звесткі з сеціва, у 1990-я гады сам спадар Шаўцоў жыў і працаваў у Вільнюсе.

Сёння, паводле сцвярджэння Шаўцова, паратунак для беларусаў – гэта *“союз с Россией и понимание себя частью большой Русской цивилизации”*. І нарэшце апафеоз: *“Беларусь – это европейская часть России”*.

У сваім таптанні па *“свядомых”* аўтар не арыгінальны. Гэтак жа ўсю дарогу прывідам беларускага нацыяналізму палохалі камуністычныя начальнікі. І не проста палохалі, а менавіта пад лозунгам барацьбы з “нацдэмамі” вынішчылі нашу інтэлектуальную эліту ў 1930-я гады. Пад гэтай маркай цкавалі Купалу, стралялі ў патыліцу ахвярам у Курапатах.

Пікантнасць жа сённяшняй сітуацыі ў тым, што калі падыходзіць з крытэрыямі сп. Шаўцова, то ўжо і Аляксандр Лукашэнка цягне на радыкальнага нацыяналіста. Бо ў выступленні на ўрачыстым сходзе з нагоды Дня Незалежнасці кіраўнік Беларусі фактычна даў адлуп масквацэнтрычнай трактоўцы беларускай гісторыі. Ён зазначыў, што карані нашай дзяржаўнасці сягаюць аж у IX стагоддзе, у Полацкае княства, якое, падкрэсліў Лукашэнка, узнікла без дапамогі варагаў (і гэта ўжо каменьчык у гарод усходніх суседзяў).

Асобнае пытанне: што змусіла беларускае кіраўніцтва пераасэнсаваць падыходы да айчыннай гісторыі? Калі казаць наўпрост, то яно спахапілася пасля Крыма. Пры ўсіх сваіх гульнях у *“братнюю інтэграцыю”* і звычцы да русафільскай рыторыкі наверсе скемілі, што грамадства з русіфікаванымі мазгамі, масквацэнтрычным мысленнем – выдатны падарунак для імперыі, якая *“ўстае з каленяў”*. Так што сёння ўлады хай сабе і грубавата, але ладзяць так званую мяккую беларусізацыю, спрабуюць шукаць апірышча ў самабытнасці айчыннай гісторыі, пачынаюць запазычваць элементы ідэалагічнага канцэпту менавіта ва ўнутраных апанентаў – тых самых *“свядомых”*.

Гульню ж у тэзы кшталту *“Беларусь – это европейская часть России”* сёння ніяк не назавеш нявіннай забавай інтэлектуалаў. Бо адно з апраўданняў імперскай экспансіі – гэта нібыта абарона *“русского мира”* ад страшных нацыяналістаў, што расперазаліся ў суседніх краінах. Вунь маскоўская прапаганда распырскала мора сліны, лямантуючы пра страшны ўкраінскі нацыяналізм, які, маўляў, набыў форму “ўкрафашызму”.

Так, любы нацыяналізм здольны набываць і радыкальныя формы. Можна заўважыць такую пену і ва ўкраінскім соцыуме. Але тут той выпадак, калі маскоўскія ды прамаскоўскія каментатары бачаць трэску ў чужым воку, не заўважаючы бервяна ва ўласным. Можа, гэта бандэраўцы адхапілі ў Расіі кавалак тэрыторыі? Не, якраз наадварот, выкрывальнікі “ўкрафашызму” адціснулі ў суседзяў Крым ды заварылі крывавую кашу на Данбасе. Іначай кажучы, гэта акурат той выпадак, калі злодзей крычыць: “Трымай злодзея!”

Таму абсурднай выглядае карціна, калі беларускі інтэлектуал метадычна вядзе вайну з беларускім нацыяналізмам (які і так вытручвалі дзесяцігоддзямі), бяздоказна абвінавачвае “свядомых” у нібыта паталагічнай празе крыві, расправы з іншадумцамі, але пры гэтым ва ўпор не бачыць рэальнай агрэсіі вялікадзяржаўнага шавінізму.

Між тым маладая дзяржава, што суседнічае з былой метраполіяй, якая не адмовілася ад імперскіх замашак, – запраграмаваная ахвяра, калі не працаваць мэтанакіравана над уздымам нацыянальнай самасвядомасці. Лямант жа з нагоды яе ўмацавання ўзнімаюць акурат тыя, хто бачыць нашы землі Паўночна-Заходнім краем.

І дзе яны, тыя крыважэрныя нацыяналісты? Нават справа “Белага легіёна” развалілася. А можа, гэта Аляксей Янукевіч, Павел Севярынец ці Андрэй Дынько малююць планы канцлагераў для тутэйшых рускіх? Ці мрояць пра гібрыдную вайну з мэтай захапіць Смаленск, а калі пашэнціць, дык пашырыць межы Беларусі да Сахаліна? Лухта, трызненне. Затое мы бачым, што менавіта пад маркай абароны “русского мира” ад праклятых суседскіх нацыяналістаў анексаваны Крым, пушчаны рэкі крыві на ўсходзе Украіны. І адэпты імперскага рэваншу відавочна пайшлі б далей, калі б на іх шляху не паўсталі ўкраінскія патрыёты. Тамтэйшыя свядомыя без аніякіх двукоссяў.

Так што постсавецкія рэаліі ў нашым рэгіёне такія, суровыя і без варыянтаў: дзе бракуе свядомых – туды вернецца імперыя.




ПОСЛЕ СОБЫТИЯ

## Белые флаги над городом

В воскресенье в белорусской столице закончилась 26-я летняя сессия Парламентской ассамблеи ОБСЕ. Политики как минимум еще неделю будут скрупулезно анализировать ее итоги. А потом ссылаться на нее еще несколько месяцев подряд – до следующего, осеннего, сбора ОБСЕ в Палермо (Италия). Пять дней, с 5 по 9 июля, включили в себя немало эмоций, откровенных дискуссий, и пусть вас не сбивают с толку белые – нейтральные – флаги ОБСЕ, которыми был в эти дни украшен наш главный проспект.

На заседаниях ассамблеи не было убаюкивающего единомыслия. Порой дебаты напоминали настоящие «американские горки»: то вверх, то вниз. Дух захватывало. Например, голосование по проекту резолюции по Беларуси. На заседании общего комитета по демократии и правам человека он был принят большинством голосов. И многие белорусские и российские депутаты нервно выходили из конгресс-холла, буквально бросаясь к буфету, чтобы выпить чашку кофе и довольно раздраженно обсуждали с коллегами ситуацию.

Но при принятии Минской декларации резолюцию отклонили, так как голоса за нее разделились поровну: 43 на 43. Председатель ПА ОБСЕ Кристин Муттонен назвала эту ситуацию необычной, но поскольку большинства не набралось, критичную по отношению к Минску резолюцию исключили из итогового документа. Белорусские делегаты поздравляли друг друга, некоторые их коллеги в зале также аплодировали.

Вообще, неожиданное свободомыслие проявила белорусская официальная делегация при голосовании за итоговый документ минской сессии ассамблеи, частью которого стала украинская резолюция с осуждением «агрессии России против Украины». За нее проголосовали четыре из шести членов нашей делегации. Конечно, в политическом театре роли строго распределены, но сценарий, как видим, может обновляться.

Летняя сессия Парламентской ассамблеи посвящалась укреплению взаимного доверия и сотрудничества во имя мира и процветания в регионе. Австрийский парламентарий **Кристин Муттонен** вновь избрана председателем Парламентской ассамблеи.

*(Продолжение темы на 2-й стр.)*

ПОСОЛЬСКИЙ ДВОР

## Нидерланды теперь ближе




Нидерланды входят в десятку самых главных торгово-экономических и инвестиционных партнеров Беларуси. Но, к сожалению, за последние годы товарооборот между нашими странами снизился в 3–4 раза. Открытие отделения посольства Нидерландов в Минске поможет нашему сотрудничеству во всех сферах политической и общественной жизни.

Об этом вчера на торжественной церемонии официального открытия отделения посольства Нидерландов в Минске говорил министр иностранных дел Республики Беларусь **Владимир Макей.** На церемонии присутствовала генеральный секретарь Министерства иностранных дел Королевства Нидерланды **Йоханна Брандт.**

– В период развивающегося диалога между Беларусью и ЕС открытие отделения посольства в Беларуси позволит нашим нидерландским коллегам получать информацию из первых рук о ситуации в Беларуси, о развитии общества и государства. Мы должны активно продолжать политический диалог, который наметился между нашими государствами. Но мы не должны ограничиваться только диалогами МИДов, надо развивать диалог между гражданскими обществами и, что очень важно, между бизнес-сообществами наших стран. Сегодня есть немало примеров успешного взаимодействия, сейчас в Беларуси находится порядка 10 совместных предприятий с участием голландского капитала. С открытием отделения посольства появится еще больше возможностей для развития и углубления сотрудничества во всех без исключения сферах, – сказал Владимир Макей.

Отделение посольства Нидерландов расположилось в здании на улице Мясникова, 70.

**Елена КИРЕЕВА.**

ПРАТЭСТ

## «Рускі салдат, ідзі дамоў!»




Як вядома, напрыканцы мінулага тыдня ў цэнтры Мінска прайшла акцыя супраць ваеннага саюза з Расіяй і ў падтрымку беларусаў, якія пацярпелі паводле палітычных матываў. Прахожыя не маглі не звярнуць увагу на транспарант “Рускі салдат, ідзі дамоў!”. Такім чынам удзельнікі акцыі выказалі сваю нязгоду з тым, што замест таго, каб імкнуцца да нейтральнага статусу, як гэта запісана ў нашай Канстытуцыі, беларускія ўлады мацуюць ваенны саюз з імперскай Расіяй. Актывісты пратэстуюць супраць уцягвання Беларусі «ў ваенную авантуру, якой з’яўляюцца вучэнні «Захад-2017». «Мы супраць ваеннага саюза з Расіяй, мы не лічым, што ў Расіі пры ўладзе знаходзяцца людзі, якія могуць адказваць за свае дзеянні. Мы памятаем, што яны зрабілі ў Грузіі ў 2008 годзе, на Данбасе, як яны забралі Крым. Мы не лічым, што яны могуць быць ваеннымі саюзнікамі, бо яны прыносяць толькі гвалт і страту незалежнасці», – сказаў актывіст кампаніі “Еўрапейская Беларусь” Максім Вінярскі.

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА




Анатолий АЛАЙ:

## «В поисках отца я объехал полмира, а узнал о его судьбе в Минске!»

*В ближайшие дни на экраны страны выйдет документальный фильм Анатолия Алая «Черный ворон» (автор сценария – Игорь Осинский). Эксперты единодушны: его ждет большой успех. Как, впрочем, и все предыдущие картины этого режиссера.*

*В самый канун премьеры за большой личный вклад в развитие национального кино, за бескомпромиссность в отстаивании исторической правды ему присвоено звание «Народный артист Беларуси». Несколькими годами ранее Мастер был отмечен званием «Заслуженный деятель искусств Республики Беларусь».*

*Новый фильм – это щемящая сердце исповедь «подранка», осиротевшего еще в колыбельном возрасте. Отец Анатолия – военврач Иван Алексеевич Алай пропал без вести во время боев в первые дни войны. В память о нем остались лишь единственное письмо, отправленное из-под Белостока, и фотография, запечатлевшая его в форме красноармейца.*

*О беспримерном поиске отца, растянувшемся на 75 лет, «Народная Воля» рассказывала дважды (12 июля и 21 ноября 2016 года). Финал его оказался совершенно неожиданным...*

*(Продолжение на 3-й стр.)*

ЯНЫ – ПРА НАС

## Генеральны сакратар ПА АБСЕ лічыць, што дэлегаты сесіі, якія ўпершыню наведалі Мінск, могуць змяніць сваё меркаванне пра Беларусь

Генеральны сакратар Парламенцкай асамблеі АБСЕ **Раберта Мантэла** мяркуе, што дэлегаты сесіі ПА, якія ўпершыню наведалі Мінск, могуць змяніць сваё меркаванне аб Беларусі. Пра гэта ён заявіў у інтэрв’ю праграме «Тыдзень» тэлеканала СТБ.

*«Маё меркаванне пра Беларусь развівалася на працягу многіх гадоў,* – адзначыў палітык. – *Я думаю, што для іншых дэлегатаў прыезд у Беларусь будзе павучальным. Яны атрымаюць больш разгорнутую карціну аб тым, што адбываецца ў Беларусі, і, магчыма, зменяць сваё меркаванне»*. Таму што, паводле слоў генеральнага сакратара ПА АБСЕ, ацаніць сітуацыю ў краіне на аснове СМІ вельмі складана.

*«Я лічу, што трэба выбудоўваць канструктыўны дыялог паміж дзяржавамі і, самае важнае, паказваць павагу да іншых культур. Мы часта робім памылку, калі думаем, што адны маюць рацыю, а іншыя – не. Ёсць шмат арганізацый, якія выкарыстоўваюць двайныя стандарты»*, – сказаў Мантэла. Ён не згодны з такім падыходам.

БелаПАН.

СУД

## За лебедзя – тысяча долараў

*У Віцебску жанчыну судзілі за лебедзя, якога загрыз яе сабака.*

Сабака гуляў каля пажарнага вадаёма без павадка і намордніка і накінуўся на птушку, якая там плавала. Эксперты засведчылі, што лебедзь загінуў ад кусана-рванай раны.

У выніку суд Віцебскага раёна вынес рашэнне, паводле якога жыхарка Віцебска павінна кампенсаваць страты, нанесеныя навакольнаму асяроддзю. Жанчыну аштрафавалі на 1953 рублі. У пракуратуры кажуць, што такія выпадкі вельмі рэдкія.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 ЛІПЕНЯ 2017 г.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# О попытках оскорблений



Ольга БЕЛЬКОВА,
член парламентской делегации Украины, народный депутат Украины от фракции «Блок Петра Порошенко»:

– В каждой стране, которая принимает сессии ОБСЕ, есть своя изюминка. Я могу отметить высокий уровень организации мероприятия в Минске: с одной стороны, радушие властей, тактичность и приветливость обслуживающего персонала. И вообще, когда едешь в Минск, то, зная особенность вашего менталитета, ожидаешь мирного, спокойного, неконфликтного течения дискуссий.

С другой стороны, в мире очень много горячих точек, включая мою собственную страну, чтобы не делать друг другу только комплименты. Сегодня на востоке Украины идет война – это огромная трагедия, и молчать о «больших слонах» в маленькой комнате невозможно. Поэтому парламентские дискуссии на прошедшей сессии были порой очень эмоциональными, во многих комитетах проходили довольно острые дебаты. Сказалась специфика: в зале сидят представители воюющих между собой стран. Безусловно, все депутаты хорошо владеют механизмами жарких дискуссий, но вместе с тем парламентская дипломатия отличается от государственной прямолинейностью, эмоциональностью. Но вот когда случаются попытки оскорблений…

**– Случаются?!**

– Коллега из России позволил себе неприемлемый комментарий, направленный в мою сторону во время моего выступления в дискуссии по воде в общем комитете по вопросам окружающей среды. У нас принято говорить в таком случае: «Бог вам судья». Но председательствующий все-таки вынужден был сделать специальный комментарий о недопустимости использования двусмысленных жаргонизмов в дискуссии, тем более что переводчики не всегда могут уловить их нюансы.

Почему об этом говорю? Не надо думать, что все на наших заседаниях проходит бесконфликтно. На самом деле здесь рассматриваются и принимаются довольно жесткие резолюции. Например, о восстановлении суверенитета и территориальной целостности Украины. Ее приняло все мировое сообщество. Только одна страна – Российская Федерация – не соглашается с ней. Особенность парламентской ассамблеи ОБСЕ состоит в том, что она является пилотной площадкой для формальных дипломатов. По сути дела, мы, депутаты, своими выступлениями, резолюциями, поправками и дополнениями прощупываем почву для дальнейших действий официальных лиц.

**– Можно спросить, давно ли вы в политике?**

– Я в политику пришла из бизнеса. Работаю на этом поприще уже пять лет. А в парламентских ассамблеях ОБСЕ принимаю участие три года подряд.

**– Для участников сессии была организована отличная культурная программа, желающие могли многое увидеть… Вы не воспользовались этой возможностью?**

– Нет, что вы! Времени не было. Культурная программа – это для сопровождающих, для жен и мужей, с которыми иногда приезжают депутаты.

**– А вы приехали одна?**

– Одна. Кто-то же должен заниматься детьми.

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭЗАНАНС

## Дамашняе заданне Беларусі ад сесії Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы

«Дамашняе заданне па двух асноўных ўроках. Першы – пачатак канструктыўнага дыялогу з апазіцыяй унутры краіны. І другі – правядзенне сумленных і справядлівых выбараў паводле стандартаў АБСЕ на пачатку 2018 года. Застанецца беларуская ўлада двоечнікам-другагоднікам або пяройдзе ў наступны клас еўрапейскай дэмакратычнай палітычнай школы, залежыць толькі ад яе», – адзначаецца ў каментары, размешчаным на старонцы дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Ганны Канапацкай у «Фэйсбуку».

ЧУЛІ?

## Кіраўнік ПА АБСЕ падтрымлівае ініцыятыву Лукашэнкі аб новым Хельсінкскім працэсе

Абраная на сесіі ПА АБСЕ ў Мінску старшыня асамблеі Крысцін Мутанен падтрымлівае ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі аб новым Хельсінкскім працэсе («Хельсінкі-2»). Пра гэта яна заявіла ў інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» тэлеканала «Беларусь 1».

*«Я думаю, што гэта вельмі добрая ідэя, таму што нам трэба як мага хутчэй вырашыць назапашаныя праблемы»*, – сказала еўрапейскі палітык.

Паводле яе слоў, «падчас вельмі цікавай гутаркі з прэзідэнтам» яна заўважыла, што неабходны час. Лукашэнка, як сказала Мутанен, на гэта адказаў, што часу няма: *«Мы не можам павольна рухацца ў гэтым напрамку, нам неабходна бегчы»*.

*«Я з гэтым абсалютна згодна. Я думаю, усе цяпер разумеюць, што ў шматлікіх момантах мы павінны паскорыцца, зноў пачаць перамоўны працэс і стварыць базу, на якой зможам працаваць разам, давяраць адзін аднаму. Давер і супрацоўніцтва сапраўды неабходны для нашых людзей, для іх бяспекі і росквіту»*, – сказала Мутанен.

Таму, як заявіла старшыня ПА АБСЕ, яна абсалютна падтрымлівае ініцыятыву беларускага кіраўніка.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

МЧС ПРЕДУПРЕЖДАЕТ




ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Пагарэў

*Галоўнага трэнера салігорскага “Шахцёра” **Алега Кубарава** адправілі ў адстаўку.*

Паводле некаторай інфармацыі, такое рашэнне быццам бы прыняло кіраўніцтва “Беларуськалія”.

«Шахцёр» пад кіраўніцтвам Кубарава прайграў у фінале Кубка Беларусі брэсцкаму «Дынама», а таксама вылецеў з Лігі Еўропы ў першым кваліфікацыйным раўндзе, саступіўшы літоўскай «Судуве». Аднак «гарнякі» пасля першага круга лідзіруюць у чэмпіянаце Беларусі.

**Віктар ШПАК.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Еўразійская эканамічная камісія і «Народная праграма»

Коратка нагадаю чытачам “Народнай Волі” пра маю гісторыю з Брэсцкай мытняй. У ноч з 24 на 25 красавіка гэтага года, калі я рэйсавым аўтобусам вяртаўся ў Мінск з Варшавы пасля ўдзелу там у прэзентацыі “Народнай праграмы”, напісанай групай аўтараў з маім удзелам пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка, тыя два асобнікі (з аўтографамі апошняга), што я вёз пазней, былі ў мяне рэквізаваны мытнікамі. Пры гэтым аўтобус з пасажырамі быў затрыманы амаль на тры гадзіны, а мне давялося сваім ходам самастойна дабірацца да Мінска. На маю скаргу, накіраваную кіраўніцтву мытні праз некалькі дзён пасля інцыдэнту, намеснік адпаведнай структуры сп. А.Кудаш паведаміў мне, што абодва асобнікі вышэйзгаданай кнігі адпраўлены на экспертызу, і пры гэтым спасляўся на рашэнне Калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі ад 21.04.2015 №30 “О мерах нетарифного регулирования” ў дачыненні да друкаваных і аўдыёвізуальных матэрыялаў, якія “змяшчаюць заклікі да ажыццяўлення экстрэмісцкай і тэрарыстычнай дзейнасці або публічнае апраўданне тэрарызму”.

І вось тыдзень таму мне патэлефанавалі з мытні і паведамілі, што я магу забраць злашчасныя асобнікі кнігі ў іх у Брэсце. З дапамогай майго знаёмага, кобрынца Аляксандра Меха, кнігі былі забраны з мытні, і, на маю просьбу, удалося атрымаць копію заключэння той самай “экспертызы”.

Мяркую, што цяпер чытачам будзе цікава пазнаёміцца хоць бы з вытрымкамі тэксту згаданага заключэння *(цытую на мове арыгінала)*.

*“…Экспертом по данным материалам был назначен: Северин Э.Н. – доцент кафедры политологии и социологии УО “Брестский государственный университет им. А.С.Пушкина”, кандидат политических наук…*

*По итогам изучения содержания книги, представленной на экспертизу на предмет наличия (отсутствия) в ней признаков экстремизма, оформлено настоящее экспертное заключение:*

1.Книга, представленная на экспертизу, представляет собой проект спектра экономических, политических, социальных и иных преобразований Беларуси после изменения политического режима. Однако данная программа не содержит призывов, направленных на насильственное изменение конституционного строя и (или) территориальной целостности, захват или удержание государственной власти неконституционным путем, также разжигание расовой, национальной, религиозной либо иной социальной вражды или розни, иных проявлений(,) подпадающих под определение “Экстремизм”. При этом в анализируемом материале содержится жесткая критика существующего политического режима и основных направлений политики белорусского государства на современном этапе.

*Экспертное заключение подтверждается Протоколом заседания Брестской областной экспертной комиссии по оценке информационной продукции на предмет наличия (отсутствия) в ней признаков проявления экстремизма от 22 мая 2017 года, №3”.*

Працытаваны дакумент падпісалі Т.М.Гагакава, намеснік старшыні згаданай камісіі, і сакратар той жа камісіі Л.В.Бядуля.

Вядома, хочацца падзякаваць невядомаму мне дацэнту Северыну за тое, што ён прачытаў тэкст “Народнай праграмы” і разабраўся ў ім.

Толькі ў мяне застаюцца пытанні – і зусім не да спадара Северына ці сябраў “экспертнай камісіі” з невядомым грамадскасці статусам.

Першае. Высвятляецца, што Еўразійская эканамічная камісія (якая, як вядома, засядае ў Маскве) займаецца не толькі эканамічнымі пытаннямі: яе цікавяць і пытанні правозу цераз мытную мяжу ўсяго толькі двух асобнікаў нейкай кніжкі. Зразумела, гаворка пра “распаўсюджванне” кнігі ў такой колькасці экзэмпляраў весціся не можа (зрэшты, як я ўжо раней пісаў, “Народная праграма” ёсць у свабодным доступе ў інтэрнэце).

Але я магу ўжо сабе ўявіць, як наступным разам у каго-небудзь на беларускай мяжы забяруць кнігі Янкі Купалы ці Васіля Быкава, у якіх ёсць, напрыклад, негатыўныя ацэнкі імперскай палітыкі Расіі…

Другое. Як відаць з цытаванага раней дакумента, рашэнне брэсцкай “экспертнай камісіі” пра тое, што ў “Народнай праграме” няма экстрэмізму, было прынята яшчэ 22 мая. Але ўжо ў самым канцы мая з мытні мне пісалі, што ім невядома нічога наконт такога рашэння. І толькі 29 чэрвеня я атрымаў тэлефонны званок з Брэста пра “вызваленне” кніг. Хто вінаваты ў такой затрымцы і чаму яна адбылася?

Трэцяе. Брэсцкі эксперт па справе “Народнай праграмы” справядліва адзначыў, што праект “Народнай праграмы” “представляет собой проект спектра экономических, политических, социальных и иных преобразований Беларуси”. Вось жа ў сіле застаецца, выказаная ў ранейшай маёй публікацыі прапанова да старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі арганізаваць абмеркаванне праграмы з удзелам яе аўтараў і любых іншых асоб, якіх спадар старшыня можа запрасіць сам. А раптам нехта пераканае нас, што мы стварылі дакумент, не варты ніякай увагі з боку тых, хто кіруе дзяржавай сёння…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання.**

ПРЕСС-КЛУБ

# Беларусь–Нидерланды: время честного диалога

Вчера после официальных мероприятий, посвященных открытию отделения посольства Королевства Нидерландов в Беларуси, заместитель главы МИД Нидерландов госпожа Йоханна Брандт посетила Пресс-клуб, где более подробно ответила на вопросы белорусских журналистов об открытии дипломатической миссии в Минске и о текущем состоянии отношений с Беларусью. Она рассказала, что на утренней встрече с Владимиром Макеем обсуждались проблемы двустороннего взаимодействия, стабильность, экономические реформы. Также были затронуты вопросы демократических преобразований, свободы прессы и верховенства закона.

– Мы говорили о честном диалоге, который нам хотелось бы вести в будущем. Нам хотелось бы проводить его в своем ключе – открыто. Чтобы он проходил не только в рамках взаимодействия Беларуси и Европейского Союза, но и в том числе чтобы мы обсуждали вопросы на уровне правительств и гражданского общества – не только на высоком, но и на более низком уровне.

Далее Йоханна Брандт выразила надежду, что более активное присутствие Нидерландов в Беларуси позволит приумножить бизнес-инициативы двух стран.

– Но, как вы знаете, бизнес приходит туда, где он видит возможность для работы, – заметила госпожа Брандт. – Для этого в целом нужен привлекательный инвестиционный климат. Поэтому надо проводить изменения в экономике на правительственном уровне. Каждая страна по-разному подходит к открытию своего дипломатического офиса за рубежом. Время открытия голландского отделения в Минске напрямую связано с взаимоотношениями Беларуси и Европейского Союза. Сейчас эти взаимоотношения улучшаются, и мы сближаемся. У нас есть активные двусторонние взаимоотношения в области прав человека, у нас даже существует координационный орган между Беларусью и ЕС в этой области. Именно это и объясняет время нашего открытия офиса в Беларуси.

**Елена КИРЕЕВА.**

ЗАКУЛИСЬЕ



Небезызвестному Александру Шакутину всегда есть что сказать о развитии бизнеса в нашей стране.

## В Беларуси может появиться уполномоченный по правам предпринимателей

*Предполагается, что бизнес-омбудсмен будет возглавлять Совет по развитию предпринимательства при президенте.*

Такое предложение содержится в проекте декрета о развитии бизнеса, который в ближайшее время должен утвердить Александр Лукашенко.

*«Если Декрет будет подписан в таком виде, в каком подготовлен, то это будет хорошим шагом для дальнейшего развития предпринимательства,* – говорят бизнесмены, входящие в действующий Совет по развитию предпринимательства при президенте. – *Нельзя сказать, что после подписания декрета прямо завтра революционно изменится ситуация с бизнесом, экономика начнет расти, как на дрожжах. Но хотя бы появятся реальные предпосылки для роста предпринимательства, в этом декрете много рационального»*.

Правда, пока не известно, кто возглавит Совет по развитию предпринимательства. Сейчас им руководит экс-глава Нацбанка, бывший вице-премьер **Петр Прокопович**. Однако он уже несколько раз обращался к своим высокопоставленным коллегам с просьбой заменить его. Известно, что Петр Прокопович писал письмо председателю правления Банка развития **Сергею Румасу** с просьбой возглавить Совет. Однако Румас согласия пока не дал. До этого отказом на предложение возглавить совет ответил вице-премьер **Василий Матюшевский.** Свой отказ Матюшевский мотивировал тем, что не понимает функций Совета. Среди возможных кандидатур, которые могут прийти на смену Петру Прокоповичу, называют еще нынешнего министра труда и соцзащиты **Ирину Костевич**.

**Марина КОКТЫШ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Воля к смерти

Снова и снова белорусская власть оправдывает наличие смертной казни в белорусском законодательстве волей народа. И снова и снова я возвращаюсь к этой теме, потому что считаю ее актуальной – и буду считать актуальной до тех пор, пока смертную казнь в стране не отменят в законодательном порядке.

Лукашенко говорит правду, когда отвечает на вопрос о присутствии – и исполнении – нормы, именуемой «высшая мера наказания»:

– Такова воля народа.

Действительно. Выгляните вечером из окна, чтобы увидеть галдящую у подъезда молодежь. И в какой-то момент пожилая женщина крикнет им – и вы услышите эти слова:

– Расстрелять вас надо!

Она кричит это сгоряча. Ее собственная жизнь представляется ей вполне нормальной, а ненормально – это молодость, отсутствие опыта и неумение вести себя «после отбоя». Нарушение нормы заслуживает смертной казни – с ее точки зрения.

Женщина не понимает, что ее собственное поведение кому-то тоже в определенный момент может показаться аномальным, а потому и ей кто-то крикнет вслед:

– Расстрелять вас надо!

И она обернется, чтобы удивленно и возмущенно задать вопрос:

– А меня за что?!

Смертная казнь никого и ничему не научила. В США она продолжает существовать, но ее наличие в законодательстве вовсе не уменьшает степень напряженности. Как и в любой другой стране. Об этом говорит социология.

Но в США существует нормальное правосудие. Там есть суд присяжных – полноценный орган самозащиты общества от возможных посягательств. Там есть практически всесильные адвокаты, умеющие пользоваться законом и обладающие возможностью защищать интересы своих клиентов. Там есть пресса и общественное мнение, которые влияют на власть не «вообще», а в каждом конкретном случае.

У нас этого нет. У нас есть государство, узурпировавшее право определять, что нормально, а что нет, что опасно для общества, а что нет. Помните случай, когда несколько крестьян устроили самосуд и убили человека, а президент за них вступился? Убивали его по подозрению в том, что он сжег чье-то сено. Вина его никем не была доказана, да и если бы была, суд назначил бы ему минимальное наказание. Но «самосудьи» решили, что он достоин смерти. И глава государства их поддержал: высказанное им мнение оказалось для суда – вполне реального суда – сильнее любой директивы. Хотя что может быть страшнее сознательного убийства, осуществленного по предварительному сговору?

Я не буду говорить о судебных ошибках. Любая судебная машина дает осечки, а иногда и просто принимает неправосудные решения. Хорошо, когда ошибку можно исправить, – но как исправить неоправданно вынесенный смертный приговор? Напомню, что самый известный подобный случай произошел в 33-м году нашей эры, и тогда народ – народ, на мнение которого ссылается и по сей день любая власть, – кричал, наверное, Пилату:

– Распни его!

Хотя нет. Он не требовал распять Иисуса. Он всего лишь требовал даровать жизнь насильнику и убийце Варавве, грабившему мирных обывателей на большой дороге.

Нельзя ссылаться на волю народа, рассуждая о смертной казни. Так же можно ссылаться на волю санкюлотов, пьяных кронштадтских матросов, куклуксклановцев и хунвэйбинов, считавших, что они обладают монополией на истину и представляют единственно правильное мнение – мнение большинства. Просто нужно задать самому себе вопрос:

– А если это коснется моего сына? Должна тогда быть применена смертная казнь – или я пойду защищать его, требовать милосердия, настаивать на необходимости отмены соответствующего закона?

Если сторонники смертной казни – честные люди, они должны сказать это вслух:

– Да, я не буду протестовать против применения смертной казни, если на скамье подсудимых окажется мой сын.

Кардинал Монтанелли из романа Этель Лилиан Войнич «Овод» был верующим человеком и поступил именно так. Но в финале романа он сходит с ума.

Общество безумно, если в условиях несвободной судебной системы, отсутствия института присяжных и свободы слова, ограниченности действия адвокатов поддерживает идею смертной казни. Оно больно. И спасти его можно единственным способом – поставить своего сына на место осужденного.

Так поступил Бог. Поэтому лишь у него есть право распоряжаться нашими жизнями. У нас такого права нет.



Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 ЛІПЕНЯ 2017 г.

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

Анатолий АЛАЙ:

# «В поисках отца я объехал полмира, а узнал о его судьбе в Минске!»

## С кинокамерой наперевес

Предыдущая публикация завершалась на обнадеживающей ноте – из Комитета госбезопасности Беларуси Анатолию Алаю сообщили о том, что следы его отца обнаружены в Дрездене, в материалах исследовательского центра «Саксонские мемориалы». По мистическому стечению обстоятельств (иначе, пожалуй, и не скажешь!) звонок из КГБ раздался ранним утром 22 июня 2016 года, в 75-ю годовщину со дня нападения гитлеровской Германии на СССР. Было ли это случайным совпадением или Бог вознаградил Анатолия за его сыновнюю преданность отцу, навсегда останется загадкой.

На запрос в Дрезден ответ пришел без промедления. Раскрыв конверт с иностранным штемпелем, Алай обнаружил в нем персональную карточку военнопленного. Из нее следовало: красноармеец Иван Алай был пленен 2 июля 1941 года в районе города Столбцы. О том, что с ним случилось дальше, не сообщалось.

Заявку на документальный фильм о трагической судьбе военнопленных руководство киностудии «Беларусьфильм» и Министерство культуры Беларуси утвердили без колебаний. Эта тема для нашего общества по сей день остается одной из самых больных и неисследованных. Горбачевская гласность не только не раскрыла всей правды, а скорее даже еще больше замутила ее. Пользуясь возможностью писать обо всем открыто, в отсутствие полного доступа к секретным архивным материалам недобросовестные публицисты восполняют недостаток достоверной информации домыслами, продиктованными идеологическими предпочтениями.

Анатолий Алай зарекомендовал себя как бескомпромиссный борец за истину. В жизни это не раз оборачивалось для него большими неприятностями. Ленту о Чернобыльской катастрофе, воссоздавшую подлинный масштаб трагедии, смыли как «излишне драматичную», а его самого, получившего критическую дозу радиации, подвергли настоящей экзекуции. Не постыдились даже взыскать стоимость израсходованной кинопленки. Не заступись за него один из именитых деятелей искусства, получил бы «волчий билет». Здравомыслящие коллеги советовали ему во избежание отлучения от профессии впредь «не лезть на рожон». А он вновь и вновь заявлял темы, на которые было наложено строжайшее табу. И каким-то немыслимым образом добивался своего. В фильме «Не плачьте обо мне» рассказал о мытарствах, которым подвергался талантливый художник из Речицы Александр Исачев за то, что рисовал не доярок и механизаторов, а мифологических героев; в фильме «Его зарыли в шар земной» – о том, что десятки советских воинских кладбищ, расположенных на территории тогдашней ГДР, на обелисках которых запечатлены имена тысяч павших красноармейцев, для Министерства обороны СССР остаются неизвестными, и людям, разыскивающим своих родных, даются фальшивые отписки «В списках не значится!». В картинах «Отверженный», «Маринеско», «Красный дьявол» и других, снимая которые, чтобы обойти запреты, пускался во все тяжкие, восстановил честные имена героев войны, по сути, оболганных официальной пропагандой.

Анатолий Алай напоминает мне литературного Дон Кихота, бесстрашно бросающегося с копьем на ветряную мельницу. Вот только «мельницы», которые встречаются на его жизненном пути, перемалывают не зерно, а человеческие судьбы…

Будь он осмотрительнее, посговорчивее, не сомневаюсь, звания и награды пришли бы к нему не на склоне лет, а значительно раньше. Власти не любят и даже боятся людей с высоким чувством собственного достоинства, предпочитающих не плыть по течению, а прокладывать свой путь. Может, поэтому Анатолий Алай не получил давно заслуженную им Государственную премию, хотя был трижды номинирован на нее. Оказываясь по результатам голосования комиссии впереди своих конкурентов, всякий раз чьей-то незримой рукой вычеркивался из готовящегося на подпись президенту указа. А материальная поддержка была бы ему как нельзя кстати. Получая мизерную зарплату режиссера, подолгу бывая по не зависящим от него причинам в творческом простое, не может даже поставить памятник матери. Хочет хотя бы символически увековечить и память об отце. А еще давно мечтает написать книгу, поделиться секретами своего мастерства, достойного изучения. Не случайно же на примере его фильмов обучают молодых операторов и режиссеров в американской киноакадемии «Голливуд». На издание мемуаров нужно не так уж много – не больше месячной зарплаты третьеразрядного футболиста, но где взять даже такие жалкие деньги?

Не секрет, что большинство наших кумиров – знаменитых артистов, певцов, художников умирают в нищете; не лучшая участь и у выдающихся спортсменов. Об этом постоянно рассказывают средства массовой информации. Подумалось: неужели государство при всей скромности его бюджета не может обеспечить им достойную старость?! На возведение ледовых дворцов, которые не окупают себя, на проведение амбициозных военных парадов, на бесполезные поездки за рубеж бесчисленных делегаций чиновников средства находятся, а на то, чтобы поддержать людей, прославивших страну, нет!..



Германия, 2016 год. Дрезден. Кинорежиссер Анатолий Алай и его дочь Ольга во время съемок документального фильма «Черный ворон».



Германия, 2016 год. Дрезден. Центр документации при объединении «Саксонские мемориалы». Научный сотрудник Валериан Вельм передает документы на военнопленного – военврача Ивана Алексеевича Алая его внучке Ольге.



Польша, город Деблин. Писатель, историк Тадеуш Опека – автор книги «Крепость смерти». Его отец в 1941–1944 годах работал в этом лагере смерти в хлебопекарне. А отец Анатолия военврач Иван Алексеевич Алай находился в нем как заключенный до 25 октября 1942 года. Затем совершил побег.



2017 год. Деревня Усохи Борисовского района. Встреча двоюродных братьев – Анатолия Алая и Анатолия Шатерника.



Германия, 2016 год. Город Риза. Мемориал Эренхайн Цайтхайн. Слева направо: доктор Нагел Йенс – научный руководитель мемориала, Фестер Вольфганг – переводчик, Анатолий Алай – режиссер фильма «Черный ворон», Андрей Малаховский – водитель, Ольга Алай – внучка Ивана Алексеевича Алая.

## «Черный ворон, что ты вьешься надо мной?»

Музыкальным эпиграфом к фильму «Черный ворон» стала одноименная русская народная песня, запечатлевшая образ предвестника смерти. Снимая его, Анатолий Алай еще раз проехал той дорогой, по которой вели пленных красноармейцев. Побывал в бывшем концлагере, располагавшемся в польском городке Деблин, где содержался его отец. Встретился с писателем, автором книги «Крепость смерти» Тадеушем Опекой, описавшим в своей книге быт узников. От уникальных документальных кадров леденеет в жилах кровь. Выпускать фильм в прокат нужно с грифом 16+…

Алай верен себе: его новая картина, как и все предыдущие, на грани фола. Каждая из них содержит философский подтекст, побуждающий размышлять, сомневаться, спорить. Режиссер не расставляет точки над «і», предоставляет это право зрителям, допуская, что не все из них примут его аргументацию. Свободу мнений сохраняет и для своих героев. Вот он встречается в родной деревне Усохи с двоюродным братом по линии отца, бывшим сотрудником МВД Анатолием Шатерником. Видятся впервые, по воле судьбы Анатолий лишь знал о его существовании. Диалог не по сценарию, чистая импровизация.

– А ведь твоя мать наверняка знала о том, что отец был в плену! Не исключено, даже допускала, что он жив и находится где-нибудь в Германии или Канаде, – говорит брат.

– Не может такого быть! Она сказала бы мне об этом!

Удивление Алая неподдельно; видно, что эта версия вызвала у него шок.

– Может, Анатолий, может! Боялась, что правда испортит тебе карьеру. Представь себе, что об этом узнали бы органы. Даже сам факт эмиграции отца стал бы для тебя приговором. А не дай Бог, Иван негативно высказался бы в какой-нибудь газете о СССР! Клеймо сына «врага народа» осталось бы на тебе на всю жизнь. И вместо кинокамеры ходил бы ты с метлой!

Увы, подобный сценарий был вполне возможен. Кто-кто, а Анатолий Алай знает об этом не понаслышке. Его фильм «Отверженный» рассказал о судьбе Героя Советского Союза Владимира Сапрыкина, прошедшего через штрафбат и фашистский концлагерь. Сталинский приказ №270 относил всех военнопленных к категории преступников, и он, чтобы не навредить своим родным, остался навсегда в Канаде. В середине 1970-х годов через Красный Крест отправил письмо отцу: «*Пойми и не осуди мое невозвращение. Твой сын не предатель Родины*». Большинство военнопленных, которые предпочли неизбежному расстрелу эмиграцию, не имели даже такой возможности. Герои фильма «Черная дорога», которых Анатолий Алай разыскал в разных странах, благодаря ему, лишь спустя полвека заочно, на киноэкране, сумели пообщаться со своими близкими.

Опасения пленных красноармейцев, освобожденных союзными войсками, вовсе не были преувеличенными. Ветеран Комитета госбезопасности признает с экрана: «Ни у кого из них не было шансов на снисхождение». Убежден в этом и сослуживец Ивана Алая по 10-й танковой армии Борис Попов, плененный в те же июльские дни сорок первого:

– Для того чтобы попасть в расстрельные списки, достаточно было побыть в плену даже несколько дней и после побега утаить это.

Самому Борису Антоновичу повезло. Фильтрационной комиссии, через которую пропускали узников фашистских концлагерей, решавшей «кому – до ордена, а большинству – до «вышки», срочно понадобился человек со знанием немецкого языка. В воинской части таких не нашлось, взяли его, отложив расправу на неопределенное время. Дамоклов меч сталинского «правосудия» он ощущал на своей шее всю послевоенную жизнь. После ликвидации фильтрационной комиссии Ленинград, где проживали его мать и сестра, было предложено покинуть в 24 часа. На работу без прописки нигде не принимали. Находились добрые люди, которые тайком от милиции давали возможность заработать на хлеб. Окончив институт с отличием, несмотря на наличие заявки, распределение получил в Сибирь. Даже будучи назначенным благодаря протекции министра главным инженером киностудии «Беларусьфильм», все еще не верил в то, что может наконец вздохнуть свободно…

Во времена СССР цензура наверняка вырезала бы эти кадры из фильма, а скорее всего, даже положила бы его на полку. Попали бы под нож и слова Анатолия Шатерника о том, что в массовых репрессиях фашистов против мирного населения повинны и… партизаны.

– Кто, Анатолий Иванович, заставлял твоих теток прятаться от немцев в болоте? Говорили же им в комендатуре: «Не кормите лесных бандитов!» Нет же, тайком пекли для них хлеб…

Для Анатолия Алая как гражданина, убежденного в том, что именно зверства фашистов, искреннее желание белорусов отстоять свою свободу стали причиной массового сопротивления врагу, подобная позиция неприемлема. Но как режиссер он считает: коль у некоторых людей существует иной взгляд на партизанское движение, даже если их число по отношению ко всему населению страны находится в рамках статистической погрешности, они имеют право высказать его. В прессе такого рода полемические публикации уже не редкость. В кино говорить об этом отважился лишь Анатолий Алай…

Не пересказывая содержание фильма – чтобы оценить по достоинству, его нужно видеть, – скажу лишь о заключительных кадрах. Они снимались в архиве КГБ. До Анатолия Алая сюда, в святая святых государства, допустили только писателя Юлиана Семенова, по содержавшимся здесь секретным материалам он писал свою повесть, по которой режиссер Татьяна Лиознова сняла знаменитый телесериал о Штирлице. Анатолий Алай также попал в это таинственное подземелье не из чистого любопытства. В дрезденском центре «Саксонские мемориалы» он узнал, что его отец находился в концлагере до октября 1942 года. Очевидно, пользуясь как врач чуть большей свободой, чем остальные заключенные, он смог совершить побег. Информации о поимке нет. О том, что с ним случилось дальше, можно лишь гадать. Пробраться в одиночку через линию фронта было невозможно. Мог, скитаясь по лесу, умереть от голода и холода. Мог оказаться в одном из партизанских отрядов, которых на территории Польши было немало, и здесь дождаться освобождения. В этом случае попал бы в фильтрационный лагерь, а значит, соответствующая запись должна быть в его персональном деле.

– Оригиналы карточек военнопленных красноармейцев – уроженцев Беларуси находятся в Минске, в архиве КГБ. Именно оттуда мы получили ее копию. Вполне вероятно, что в ней по политическим мотивам отражены не все сведения, – пояснили Анатолию Алаю в Дрездене.

Он ожидал чего угодно, только не такого поворота событий. Надо было проехать полмира для того, чтобы узнать, что тайна отца хранится в нескольких километрах от киностудии?!

Вместе с Анатолием Алаем зрители, затаив дыхание, будут ждать развязки этой драматической истории.

Сотрудник КГБ достает с одной из бесчисленных полок пожелтевшую от времени толстую папку. Не спеша развязывает тесемки. Перелистывает страницу за страницей. Мелькают перед глазами незнакомые имена и фамилии. Видно, как волнуется Алай. Кажется, даже слышен гулкий стук его сердца. Вот и персональная карточка №1 красноармейца Ивана Алая. Ее лицевую сторону Анатолий может воспроизвести даже с закрытыми глазами. Запись о судьбе отца должна быть на обороте! Еще мгновение – и он узнает наконец правду, поискам которой посвятил всю свою жизнь!..

Тяжелый вздох разочарования. Оборотная сторона карточки пуста!

Из уст Анатолия Алая готов сорваться вопрос: «А не могли ли дискредитирующие ведомство записи подчистить, чтобы после рассекречивания архивов потомки безвинно убиенных людей не узнали всей страшной правды?!»

Но он так и не задаст его. Непроницаемое лицо сотрудника КГБ красноречивее слов.

P.S. Архивы КГБ таят в себе еще много нераскрытых тайн. Ведомство хотя и неохотно, но все же постепенно обнародует их. В ходе недавнего визита в Казахстан президент Беларуси Александр Лукашенко передал для открытого здесь 31 мая 2007 года Музейно-мемориального комплекса памяти жертв политических репрессий и тоталитаризма ряд уникальных документов. Это материалы уголовных дел в отношении 63 женщин – жен репрессированных в 1937 году представителей белорусской интеллигенции, которые были этапированы для отбывания наказания в расположенный на территории Казахстана лагерь, известный как Акмолинский лагерь жен изменников Родины.

**Игорь ОСИНСКИЙ.**

ПРЫСУД

## «Бацюшку са свастыкай» далі 3 гады зняволення

*Учора ў судзе Заводскага раёна Мінска быў вынесены прысуд святару з Гатава Канстанціну Бурыкіну.*

Суд прызнаў яго вінаватым у незаконным захоўванні зброі і боепрыпасаў і асудзіў на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

*«Пісталеты захоўваліся дома як памяць аб “РНЕ”* (Бурыкін быў духоўным настаўнікам арганізацыі да яе забароны. – **“Еўрарадыё”**). *Ніякага намеру прывесці іх у баявую гатоўнасць не было»*, – яшчэ ў першы дзень суда распавёў абвінавачаны.

Канстанціна Бурыкіна затрымалі ў лістападзе мінулага года. Адразу ж высветлілася, што ў 2000-я гады ён быў сябрам “РНЕ”, захоўваў дома дыскі з ваеннай хронікай Трэцяга рэйха, а ў працоўным кабінеце ў яго вісела люстра ў выглядзе свастыкі.

НОВЫЯ ІМЁНЫ



## Беларусь на «Славянскім базары» прадставіць Ягор Шаранкоў

*Праз два дні ў Віцебску стартуе Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар».*

Беларусь на конкурсе выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2017» прадставіць **Ягор Шаранкоў.**

Ягору ўсяго 19 гадоў, нарадзіўся ў Светлагорску. Ён студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, саліст Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі **Міхаіла Фінберга**.

– *Я вельмі адказна рыхтаваўся да “Славянскага базару”*, – гаворыць Ягор Шаранкоў. – *Абараняць гонар краіны выпадае не кожны дзень. Думаю, атрымаюцца класныя, яркія і запамінальныя нумары. Я прыкладу ўсе намаганні да таго, каб Беларусь не толькі была прадстаўлена вакальна, але каб гэта было стыльна і цікава.*

На галоўнай сцэне «Славянскага базару ў Віцебску» пройдуць сольныя канцэрты **Валерыя Меладзэ, Стаса Міхайлава, Рыгора Лепса** і іншых.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

СІТУАЦЫЯ

## Што будуць «спяваць» на судзе ідэолагі?

*За забарону канцэрта на сталічных ідэолагаў падалі ў суд.*

16 верасня Алесь Дзянісаў («Людзі на балоце», Dzieciuki) павінен быў прэзентаваць у Мінску праграму «Кароткая гісторыя Беларусі», але галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай працы Мінгарвыканкама паведаміла, што мерапрыемства не дазволена *“з-за нізкага мастацкага ўзроўню выканання»*.

Арганізатар канцэрта **Сяргей Будкін** палічыў гэтае рашэнне незаконным і падаў заяву ў Эканамічны суд. У заяве ёсць дзве просьбы: прызнаць дзеянні ідэолагаў незаконнымі і абавязаць іх выдаць гастрольнае пасведчанне на любую прымальную для арганізатараў дату.

